# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



ЦАРКОЎНА-НАРОДНЫ ДВУТЫДНЕВІК

ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

*Рэдакцыя часопісі „Беларуская Зарніца" зварочваецца да ўсяго паважанага грамадзянства з просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня „Беларускае Зарніцы" сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, сацыяльнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*„Беларуская Зарніца" цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня I. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоуна-Народны двутыднеvік
ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСОЎ.

15 лістапада 1928 году

Падпісная цана:
за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.
да канца году 3 зл.

№ 6.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Вільня, вул. Летняя № 7.



## Замковая гара.

Над Вяльёй ракой
Па гарэ крутой
Туман сьцелецца;
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок,
Там віднеецца.
Слаўны Гэдымін,
Князь Літвы-Ліцьвін,
Душа чынная.
Многа лет таму,
Ў гэтам жыў даму
Са дружынаю.
Горда мур глядзеў,
На зямлю, як леў,
Сьцяной крэпкаю.
Не аднэй бітвы
Тут сыны Літвы
Былі сьведкаю.

Выйшаў век, другі
І князі, багі
Ўсё Літаўскія,
Уцяклі з зямлі,
І дзянькі пайшлі
Не такоўскія.
Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур,
Цэгла валіцца;
Нават гнёзды віць
Птушка не ляціць,
Знаць пужаецца,
А сівою мглой
Па гарэ крутой
Туман сьцелецца;
Ні то лом-ламак,
Ні то дом-дамак
Там віднеецца.

Я. Купала.

# Будучае змаганьне хрысьціянства з марксызмам.

Час, які цяпер перажывае хрысьціянская Царква, узятая ўся разам, зьўляецца самым цяжк'м, які толькі яна перажывала за ўвесь пэрыад свайго існаваньня. Магчыма, што шмат для каго гэткі пагляд пакажацца занадта парадаксальным і павялічаным. Праўда з павярхоўнага боку цяпер яшчэ на Захадзе і на Усходзе нібі спакойна. Кажам нібы, дзеля таго, што былі і ёсьць то такія то гэткія непаразуменьні, хаця-ж бы высылка Усяленскага Патрыарха з Канстантынопалю, або пытаньне аб народных школах у Францыі. Але ня гэткая няладзіцы страшны хрысьціянству; яны заўсёды былі і будуць. Хрысьціянству пагражае другая больш сур'ёзная небясьпека. Той павярховы супакой які мы цяпер бачым, толькі так здаецца. Узапраўднасьці, паколькі ўвесь сьвет часткай ужо ўвайшоў у новую эру, а часткай стаіць перад новай эрай у гісторыі чалавецтва — эрай разьвіцьця камуністычных вучэньняў, і хрысьціянская Царква павінна будзе ўперціся з гэтым вучэньнем, якое нарадзіўшыся адносна нядаўна, ахапіла сабой увесь сьвет. І вось камунізм, які ў наш век ідзе галоўным чынмам пад штандарам марксызма, і ёсьць тым самым ворагам хрысьціянства, з якім Усяленскай Царкве прыдзецца вясьці такую барацьбу, якой яна яшчэ ніколі ні вяла.

Але, раней чым казаць аб самой барацьбе, нам трэба высьвятліць у чым--жа нядобрыя рысы камунізму; з чым павінна будзе змагацца сусьветная хрысьціянская Царква, кажам: *будзе змагацца*, дзеля таго, што ня лічым яшчэ змаганьнем тое, што цяпер выстаўляе хрысьціянства проціў камунізму.

У чым-жа зло камунізму? Каб адказаць на гэтае пытаньне, нам прыдзецца раней прааналізаваць само разуменьне: „камунізм". Часам хрысьціяніна бярэ жах ад аднаго слова „камунізм", бадай заўсёды гэта слова зьмешываюць з разуменьнем аб нечым бязбожным; камунізм часта робіцца сынонімам антыхрысьціянства.

Ці так гэта? Не. Сам тэрмін „камунізм ёсьць перш за ўсё разуменьне сацыяльна-эканамічнае, паходзіць яно ад францускага слова commun (сумеснасьць). Гэтым тэрмінам абазначаецца навука аб такім ладзе, калі прылады, сродкі вырабу і спажываньні будуць уагульнены, гэта значыць ня будуць належаць асобным, прыватным уласьнікам, як цяпер, а ўсяму грамадзянству. Тады, пры гэткім ладзе касуецца, зразумела, прынцып прыватнай уласнасьці, клясовая няроўнась грамадзян і т. п.

Вось што абазначае слова „камунізм". Мы бачымъ, што тэорыя гэта сацыяльна-эканамічная, па сутнасьці нічога праціўнага хрысьціянскаму духу ня мае, але хутчэй спрыяе яму; як мы ведаем, напрыкл., з кнігі „Деяній Апостальскіх" у першыя часы ў хрысьціянскіх абшчынах жыцьцё падыходзіла блізка да камунізму, усе веруючыя былі разам і дзялілі ўсе пароўну.

Але дзеля чаго з разуменьнем камунізму ў нас складаецца разуменьне нечага бязбожнага, атэістычнага. Ці няма якой-небудзь сувязі паміж камунізмам і атэізмам (бязбожжам)?.

Калі браць разуменьне „камуны" ў чыстым значэньні гэтага слова, дык як мы бачылі, няма. Камунізм, як вучэньне аб ладзе, дзе ня будзе прыватнай уласнасьці, існаваў яшчэ з часоў клясычнай старадаўнасьці. Мы ведаем аб арыстакратычным камунізьме Платона (адзін грэцкі філёзаў). Камунізм на практыцы пасюль спатыкаецца ў першых хрысьціянскіх абшчынах, шмат якія а. а. Царквы асабліва сьв. Іван Златаусты, змагаліся проціў прынцыпу прыватнай уласнасьці і стараліся ўвесьці ў сваіх абшчынах (зразумела, не прымусовым парадкам) камуністычны парадак жыцьця. Мы ведаем аб такіх камуністычных абшчынах, якімі зьяўляліся і зьяўляюцца некаторыя манастыры дзе манахам увасобку нічога

не належыць а ўсё дзеліцца паміж імі згодна з патрэбай кожнага. Адным словам, з раду прыкладаў, мы бачым, што камунізм, узяты ў чыстым разуменьні гэтага слова, нічога супроць хрысьціянства ня мае.

Такія няпрыхільныя адносіны да камунізму мы маем ад таго, што сучасны камунізм, так званы *„навуковы камунізм“*, за аснаваны ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя К. Марксам і Ф. Энгельсам, праходзіць пад штандарам „марксызму“. Гэты сьветагляд налажыў характэрную пячатку на ўсё вучэньне сучанага камунізму і надаў яму проціхрысьціянскую адзнаку.

Вось-жа марксызм і зьяўляецца ярка вызначаным проціхрысьціянскім сьветаглядам. І пасколькі так званае вучэньне „навуковага камунізму“ ёсьць складаная частка марксызму, пастолькі і ў нас з разуменьнем камунізма зьяўляецца разуменьне нечага бязбожнага, антыхрысьціянскага. Гэткім парадкам, мы прыходзім да вываду, што ў вучэньні нашых дзён аб камунізме ворагам хрысьціанства зьяўлаецца марксызм, як асобны атэістычны сьветагляд.

Марксызм ёсьць сьветагляд, які ад пачатку да канца напоўнены матэрыялізмам, гэты сьветагляд, у якім вучэньне матэрыялізму дайшло да свайго апогэя, радзіўся яшчэ ў старадаўнай Грэцыі. Але калі мы перабяром матэрыялістычныя сыстэмы ад *Дэмакрыта*, бацькі філёзоускага матэрыялізму, да *Фейербаха* ўключна дык убачым, што сьветагляд, паўстаўшы на падстава гэтых матэрыялістічных сыстэм, ня быў у сутнасьці да канца матэрыялістычным. Гэта сьцьвярджае тое, што некаторыя філёзафы, якіх марксісты лічаць прадстаўнікамі матэрыялізму, як напрыклад, *Бэкон*, *Веруламскі* і *Джамлок* былі веруючымі ў Бога людзьмі. І толькі ў філёзофіі *Маркса* і *Энгэльса* і іх насьлядоўцаў, у Расеі *Плеханова* і асабліва *Леніна*, матэрыялізм дасягнуў свайго найвышэйшага разьвіцьця, дзеля таго, што літэральна няма ні аднае галіны чалавецкае веды, куды-б марксызм не распаўсюдзіў матэрыялістычны сьветагляд. Марксызм гэта слуп матэрыялізму, гэта яго канец і пачатак. І чым далей мы будзем разглядаць гэты сьветагляд, тым ляпей і ясьней будзем бачыць той бязбожны атэістычны дух, якім набіты марксызм. Гэты матэрыялізм лёгічна даведзены да канца.

Што такое матэрыялізм, кожны ведае; гэта яўнае непрызнаваньне Бога адкрыта выказанае бязбожжа, настолькі матэрыялізм не прызнае нічога апроч матэрыі.

І вось пасколькі марксызм ёсьць неразлучна зьвязаны з матэрыялізмам, а матэрыялізм з атэізмам, пастолькі марксызм зьяўляецца насіцелем бязбожжа, а дзеля гэтага ён ёсьць найсярдзіцейшы вораг хрысьціянства. Падстава марксызма заключаецца ў атэізме, а марксызм без атэізма, тое самае, што хрысьціянства бяз Хрыста. Ня дзіва па гэтаму, што некаторыя прадстаўнікі сучастнага камунізму, характэрызуючы асноўныя прынцыпы сучастнага марксызму, стаўляюць у першую чаргу атэізм.

І чым балей мы будзем вывучаць гэты сьветагляд, тым ясьней нам стане дзеля чаго самым страшным ворагам для хрысьціянства зьяўляецца марксызм у сарочцы „навуковага камунізму“. А дзеля таго, што на ўсім працягу гісторыі хрысьціянскай Царквы ня было вучэньня да канца бязбожнага, і для хрысьціянства ня было ворага сур'ёзнейшага і разам з тым мацнейшага, як марксызм.

Вось дзеля чаго, калі мы кажам, што хрысьціцнская Царква перажывае самы цяжкі пэрыад свайго існаваньня, мы не павялічываем. Трэба было-б праўдзіва сказаць, што мы цяпер перажываем пакуль што толькі *пачатак* гэтага страшнага пэрыяду; пакуль што актыўна стукнулася з марксызмам галоўным чынам толькі расейская Царква і часткова загранічныя-інаслаўныя. І калі мы цяпер на Усходзе і на Захадзе бачым адносны павярховы супакой, дык гэта толькі зацішша перад вялікай бурай,-навальніцай, якая да самай асновы патрасе чалавецтва і прывядзе яго або да пагібелі або да спасеньня, і Царская Расая першая ўвайшла ў паласу гэтай яшчэ толькі пачынаючайся грознай сусьветнай буры.

Аглядаючы мысьленна гісторыю хрысьціянскай Царквы, мы бачым, што є са-

мага пачатку свайго існаваньня царкоўны карабль быў абкружаны хвалямі паганства сэктаў, расколаў. Гэтыя хвалі ў пазьнейшыя часы сталі хвалямі яўнага і голага — атэізму, бязбожжа.

Прыблізна 2—3 вякі таму ўзад нарадзіўся атэізм і, падобна якому-та вялізарнаму страхацьцю, наваліўся на хрысьціянства. І цяпер пачалася пакуль што скрытная і толькі часткова вядучая змаганьне паміж хрысьціянствам і бязбожжам барацьба.

Гэтыя дзьве сілы вялізарныя па свайму росту і крэпасьці: хрысьціянства і марксызм, які толькі яшчэ цяпер дасьпявае, гэтыя дзьве сілы нарыхтаваліся і гатовы стукнуцца. Ад іх змаганьня, як мы ўбачым далей, будзе залежыць лёс чалавецтва. У гэтую барацьбу будзе ўцягнена ўсё чалавецтва, дзеля таго што калі ранейшыя бязбожныя сыстэмы, напрыклад, прасьвяціцеляў XVIII веку, былі ўласнасьцю толькі вярхоў грамадзянства, чапаючы пераважна толькі інтэлігэнцыю, то марксызм прэтэндуе быць і ідэалёгіяй бедных (галоўным чынам — пралетарыяту) уводзіць у барацьбу і народныя сілы. У гэтай барацьбе будуць браць удзел народы так сама і дзеля таго, што з аднаго боку хрысьціянская Царква сваёй пропаведзьзю пранікла ва ўсе куткі зямлі, а з другога боку энэргічная прапаганда марксызму ахапіла хутка ўвесь сьвет, дзякуючы росту капіталізму, выявіўшагася ў і мпэрыялізьме, каторы ўцягнуў і найбольш культурна адсталыя староны, як Аўстралію, Азію і др. у вір сучаснага цывілізаванага жыцьця. Адным словам, *барацьба—адзіная ў сваім родзе і ня маючая сабе роўнае на ўсім працягу гісторыі чалавецтва, як па свайму разь меру, так і па сваім значаньні, барацьба, якая часткай ужо пачалася, разыграецца ў хуткай будучыні паміж хрысьціянствам і марксызмам і гэта барацьба, кажам яшчэ раз, вызначыць чалавецтва.*

За кім застанецца перамога, мы зразумела сказаць ня можам. Знаем толькі адно, што для перамогі над марксызмам хрысьціяне павінны быць хрысьціянамі не на словах толькі не па йменьню, а ў жыцьці, Яны павінны ачысьціць сябе ад зла, яны павінны ўцьвярдзіць сябе ў благачэсьці.

Запраўднае хрысьціянства вольна ад зла ўнутранага і яно пераможа зло вонкавае. У праціўным разе пераможа зло і чалавецтва пагібне, як маральна так і фізычна, дзеля таго, што без дабра людзі жыць ня могуць. А крыніцай ўсякага дабра ёсьць Бог.

Вось які абраз сучаснага становішча рэчаў. Ня дзіва, што гэты момант самы апасны для хрысьціянства.

**Г. Пападапуло.**

---

# Царства Божае і царства кесара.

(Канец, гл. №№ 6, 4).

Ці можа ідэя сьвяшчэннай, хрысьціянскай манархіі, ідэя хрысьціянскага, праваслаўнага цара, як памазаніка Божага, быць перанесена з пэреспэктывы гістарычнай у пэреспэктыву эсхаталягічную? Эсхаталягічная ідэя хрысьціянскага цара і хрысьціянскага царства ёсьць апошняя спроба перанясьці царства кесара ў Царства Божае. Манархія цалком палежыць гістарычнаму шляху, яна зьвязана з дзеяньнем хрысьціянства ў прыродна-гісторычным сьвеце. І ідэя хрысьціянскага цара цалком ёсьць гістарычная, а не эсхаталягічная тэорыя, яна цалком належыць сымбалічнаму царству кесара, а не рэальнаму Царству Божыю. У Царстве Божым, якое ёсьць праабражэньнем сьвету, ні якога царства кесара быць ня можа. Царства кесара існуе толькі ў прыродным не праабражонным сьвеце. Да Царства Божага ня можна прымяніць тых катэгорыяў улады, якія цалком паходзяць з прыроднага царства кесара. У ім усё іншае не падобнае да

нашага сьвету і яго законаў. Тэакратычнай, сьвяшчэннай самадзяржаўнай манархіі ўжо больш ніколі ня будзе. Сьвяшчэннае расейскае царства было апошнім яе тыпам. Гэты пэрыяд у гісторыі хрысьціянства беспаваротна скончыўся. І лятуценьні аб яго звароце ёсьць толькі ўтопіяй. Эсхаталягічная ідэя царства ёсьць ідэяй царства Хрыстова, беспасрэднага царства самога Хрыста, цара і першасьвяшчэньніка. У хрысьціянстве схавана надзея на агульнае царственнае сьвяшчэнства. Апостал Пётра кажа: „Вы-род абраны царственнае сьвяшчэнства“. Сьв. Макары Эгіпецкі кажа абпамазаньні на царства ўсіх хрысьціян: „Як пры прароках усяго дастачасней было памазаньне; бо памазанымі былі цары і прарокі: так і цяпер і асобы духоўныя, памазаныя нябесным памазаньнем, становяцца хрысьціянамі па благадаці, каб быць царамі і прарокамі нябесных тайнаў“. Царства Божае і будзе агульным царственным сьвяшчэнствам. Гэта менш усяго азначае адмову значаньня іерархічных пачынаньняў у гістарычным шляху, як гэтага хочуць рожнага роду сэкты. Да агульнага царственнага сьвяшчэнства можна ісьці толькі іерархічным царкоўным шляхам. Ды й самае Царства Божае — іерархічна. І агульнае царственнае сьвяшченства ня ёсьць адмоваю іерархічнага ладу існаваньня. Але эсхаталягічная ідэя царственнага сьвяшчэнства праціўлежна тэакратычнай ідэі цара. Хрысьціянскі цар быў патрэбным у гістарычным шляху не дзеля таго, каб гэтым зьдзейсьнівалася Царства Хрыстова, а іменна дзеля таго, што Царства Хрыстова ня зьдзейсьнівалася, ён быў патрэбным у меру нязьдзейсьненьня Царства Хрыстова. Такое-ж самае і біблійнае разуменьне паходжаньня царскай улады.. Эсхаталягічная, апакаліптычная эпоха будзе зьвязана з такімі маніфэстацыямі Сьв. Духа, аб якіх мы нічога ня можам казаць і нічога ня можам ведаць. Мы ведаем толькі, што на гэтую эпоху нельга перанесьці катэгорыяў нашага гістарычнага існаваньня, да яе нельга дастасаваць паняцьцяў узятых з царства кесара. Мы змушаны прызнаць, што ў царкоўным сузнаньні гэта не раскрыта да канца... Імкненьне да Царства Божага, да другога прыходу Хрыста абазначае эпоху пнэўматычную, духаносную.

Трэці пэрыяд, у гісторыі хрысьціанства будзе стаяць пад знакам загастрыўшайся рэлігійнай барацьбы, сутыку хрысьціянства і антыхрысьціянскіх пачынаньняў. У гэтым пэрыядзе магчыма хрысьціянскае ўзраджэньне, якасьцявае ўзмацненьне хрысьціянства. Хрысьціянская Царква аканчальна павінна перастаць пакладацца на дзяржаўную ўладу і павінна разьвіць сваю ўласную энэргію. У царстве будзе ствარацца сацыяльная брацтва людзей у Хрысьце. якога ў „Хрысьціянскай дзяржаве“ ня было. У гэты пэрыяд перастануць надаваць тое выключнае значаньне дзяржаўнай уладзе і палітыцы, якое надавалі ў папярэдні пэрыяд. Людзі будуць злучацца па адзнаках рэлігійных, унутрана-духовых, а ня вонкавых, містычных адзнаках. Рожніца паміж дабром і злом у людзях ня мае амаль нічога супольнага з палітычнымі напрамкамі людзей. Маральна ацэньваць людзей у залежасьці ад таго „правыя“ яны ці „левыя“ вялікая памылка. „Правасьць ці „левасьць“, манархізм ці рэспубліканізм — рэчы трэцяраднай перад тварамі Бога, перад запраўдным духовым жыцьцём. Людзі бываюць духоўна блізкі і злучаны, ці далякі і разьдзелены зусім не таму, што яны „правыя“ ці „левыя“, што яны за манархію ці за рэспубліку, зусім ня ў гэтай вонкавай галіне абазначаюцца адносіны людзей. Наўрад ці можна прыпусьціць а яшчэ менш можна жадаць, што зноў будзе зворот да зьдзейсьненьня справы Хрыстовай у сьвеце, Царства Божага прымусовамі мэтодамі царства кесара. Гэтае злучэньне ўжо будзе немагчымым у наступным пэрыядзе хрысьціянства. І калі будзе прымусовая рэлігійнай дзяржава, дык гэта будзе дзяржава сацыялістічная ці камуністычная абаснаваная на адваротнай атэістычнай рэлігіі, дзяржава, якая будзе гнаць хрысьціян і Хрыстову Царкву. Расейскі камунізм зьяўляецца першым прыкладам такое сатанакратычнае дзяржавы. Царква Хрыстова ў гэтым сьвеце заўсёды была і будзе ўціскана, — ці ложнай апекай,ператвараючай

яе ў прыладу для выкананьня дзяржаўных, кесарскіх мэтаў, ці ганеньнем. Трэці пэрыад хрысьціянскай гісторыі прынясе з сабой аканчальнае вызваленьне хрысьціянства ад саблазнаў паганскага, рымскага імпэрыялізму, ад утапічных лятуцяньняў аб сусьветнай уладзе цара ці папы, г. зн. ад ідэі прамусовага ўнівэрсалізму. Хрысьціянскі сьвет вызваляецца ад гэтых паганскіх і антыхрысьціянскіх саблазнаў, ачышчаецца, робіцца больш духовым і паглыбляным. Камунізм-жа будзе наступніцтвам прамусовай тэакратыі, ён зьдзейсьніць сабою ўтопію. Хрысьціянскі-жа сьвет будзе імкнуцца толькі да Царства Божага, якое не ад гэтага сьвету і якое прыходзіць няпрыкметна. Але тое, што само „не ад гэтага сьвету“ можа быць выяўлена ў гэтым сьвеце і павінна быць у ім выяўлена. Новая эпоха ў хрысьціянстве абазначае пераход ад сымбалічных азнаменаваньняў Хрыстовай праўды і Хрыстова Царства ў царстве кесара, да рэальнага праабражэньня, да рэальнага зьдзейсьненьня Хрыстовай праўды і Хрыстова Царства, ня імкнучагася да вонкавага панаваньня. Старая „хрысьціянская дзяржава“ нават і не прабавала зьдзейсьніць хрысьціянства ў сацыяльным жыцьці. Вызваленьне ад паганскіх саблазнаў будзе спрыяць зьбліжэньню ўсходнага і заходняга хрысьціянскага сьвету. Іх падзялялі галоўным чынам саблазны царства кесара. У Царстве Хрыстовым, у Царстве Божым ня можа быць падзелу. Падзел стварыўся ў царстве кесара, прынятым за сьвяшчэннае, Божае Царства. Мы павінны прызнаць, што адбываецца ня толькі вонкавая, палітычная, сацыяльная рэвалюцыя, але што адбываецца і ўнутраны духовы пераварот, пачынаючы новы пэрыад хрысьціянства. Мяшанае царства, у якім „Божае“ і „кесарава“ ня былі зусім падзелены і адно замяняла другое, канчаецца. Хрысьціянская дзяржава і была поў-хрысьціянскім царствам. Поў-хрысьціянства ўжо немагчыма. Пачынаецца час выбару. Хрысьціанства можа быць толькі якасьцявай унутранай, духовай сілай сьвету, а ня колькасьцявай, вонкавай прымусовай сілай. Хрысьціянства можа быць толькі сілай рэальна зьдзейсьніваючайся праўды Хрыстовай. Новае віно вырабляецца ў хрысьціянскім сьвеце і яго нельга ўліваць у старыя мяхі. У самым „сьвеце“ адбываюцца творчыя рэлігійныя працэсы, якія павінны быць прызнаны, як царкоўныя. Але трэці пэрыад, у які мы ўходзім, ня ёсьць яшчэ апошні пэрыад. Мы жывем надзеяй, што настане яшчэ аканчальны пэрыад, у якім будзе выяўлена цудоўная сіла праўды Хрыстовай у сьвеце, сіла ўскрашаючая да вялікага жыцьця. У Царстве Божым ня будзе ўжо нічога падобнага да царства кесара, ды вонкавага парадку прыроднага сьвету, яно будзе рэальным праабражэньнем космосу, новым небам і новай зямлёй.

**М. Бердзяеў.**

---

# Прычыны падзелу Царквы і варункі магчымага злучэньня.

(Працяг).

Для дасягненьня злучэньня Праваслаўнае і Каталіцкае царквы, да чаго яны абедзьве імкнуцца, неабходна знайсьці агульную падставу. Такою падставаю можа быць толькі вучэньне Эвангельля, пастановы Апостальскага і сямёх сусьветных сабораў, якія маюць агульнае і вечнае значаньне для ўсяе Хрыстовае Царквы.

Зварачваючыся да гэтае агульнае і не парушанае падставы неабходна чыстасэрдэчна дасьледаваць, у што і як веравалі **да падзелу** на Ўсходзе і Захадзе адзіная сьвятая Саборная і Апастальская-Хрыстова Царква і гэтую агульную праўду выконываць сьвята і непарушана. Усё-ж тое, што ў пазьнейшую пару ў Праваслаўнай альбо Каталіцкай Царкве

дадана ці аднята, сьвяшчэнны абавязак кожнага, калі толькі ён шчыра імкнецца да славы Усявышняго, балей як да ўласнае славы, — напраўляць і дастасоўваць да тых догматаў веры і ўстаноўленага кананічнага ладу, якія былі аднолькавымі і на Ўсходзе і на Захадзе да падзелу Царквы. Гаворачы аб гэтым, зразумела, ня трэба прыдаваць вялікае вагі рожніцы, датычучай уставу сьвяшчэнных абрадаў, адзежы і г. д., гэтая рожніца існавала і ў ранейшыя часы, аднак-жа яна не перашкаджала еднасьці Царквы.

Сьвяшчэнная мэта об'яднаньня Праваслаўнае і Каталіцкае Царквы надзвычайна вялікая, дзеля гэтага і падыход да гэтага пытаньня павінен быць чыстым і шчырым.

Калі-б на падставе вучэньня Эвангельля, Апостальскага 7 сусьветных Сабораў і твораў сьв. айцоў прадстаўнікі Каталіцкае Царквы давялі, што да IX стагодзьдзя Рымская Царква, быўшая тады яшчэ часткаю адзінае Хрысьціянскае Царквы, чытала сімвал веры з дадаткам і ад „Сына", ці ўжывала апрэснакі, ці прызнавала вучэньне аб чысцы, ці вучыла аб бязгрэшным зачацьці Багамацяры, ці аб сьвецкай уладзе, непагрэшымасьці і главенсьцьве Рымскага Япіскапа — тады, зразумела, праваслаўным нічога не пазаставалася-бы, як усе гэта прызнаць і злучыцца з Каталіцкаю Царквою, прыняўшы ўсе яе догматы.

Калі-ж наадварот, яскрава выявіцца, як і самы любячыя праўду каталікі прызнаюць гэта, што Праваслаўная Царква ва ўсёй чысьціні захоўвае тыя догматы якія да IX веку аднолькава лічыліся непарушанымі, прызнаваліся як Усходняю, так і Рымскаю Царквою, і што Рымская Царква зьмяніла гэтыя догматы рознымі новаўвядзеньнямі і дадаткамі, тады ўсім стане ясным, што адзіны шлях да аб'яднаньня Праваслаўнае і Каталіцкае Царквы — гэта зварот Каталіцкае Царквы да старажытных догматаў і старажытнага кананічнага ладу ў царкоўным жыцьці. Вера не мяняецца ў залежнасьці ад пары, альбо тых ці іншых варункаў, але застаецца заўсяды і ўсюды адною, (Ефдс, 4, 4— .

Да IX стагодзьдзя адзіная сьвятая Царква веравала і згодна з Эвангельлем вучыла што Дух Сьвятыісходзіць толькі ад Айца.

Але на Захадзе ўжо ад IX стагодзьдзя пачалі самачынна зьмяняць сімвал Веры, зложаны і зацьверджаны Сусьветнымі Саборамі, і бяспадстаўна пачалі распашыраць вучэньне, што Дух Сьвяты ісходзіць і „ад Сына".

Як праваслаўным, так і каталікам павінна быць ведама, што Рымскі папа Леў III, на Саборы 809 году адкінуў і асудзіў гэты самачынны і праціўны Эвангельлю дадатак „і ад Сына", прычым загадаў напісаць на дзьвух срэбных досках — па грэцку і лаціне запраўдны без ніякіх дадаткаў сьвяшчэнны Сімвал Веры I і II Сусьветных Сабораў з гэткім надпісам: „Гэта Я, Леў, паставіў дзеля любві і захаваньня Праваслаўнай веры"

Канстацінопальскі патрыярх сьв. Фоцій, успамінаючы аб Рымскім Папе Льве III так пісаў аб ім да Мітрапаліта Аквілейскага: пазастаўляю багатыя раней, але вось Леў, Япіскап Рымскі, той. які быў раней, і другі, пазьнейшы, паказалі сябе аднадумцамі з Сусьветнаю Апостальскаю Царквою, быўшымі да іх Сьвятамі Япіскапамі і апостальскімі пастановамі. Першы выявіў вялікую дапамогу Сьвятому IV Сусьветнаму Сабору праз прысланых ім сваіх прадстаўнікоў і праз сваё пасланьне, у якім былі ізаблічаны і Несторый і Яўціелій. У гэтым пасланьні і аб Сьвятым Духу абвесьціў, згодна з папярэднімі саборнымі пастановамі, што Дух ісходзіць ад Айца, а не ад сына.

Таксама роўны яму па веры, як і па імяні, і другі — пазьнейшы Леў. Ён, шчыры абаронца благачэсьця, дзеля таго каб нашае вучэньне благачэсьця так захавалася і далей, не абмежаваўся толькі словам, але загадаў зрабіць дзьве дошкі, як-бы два стаўбы, напісаў на іх Сімвал Веры і паставіў на відным для ўсіх мейсцы, прыбіў да царкоўных дзьвераў каб кожнаму можна было лёгка і правідлова навучыцца благачэсьцю і каб ня было ні якое магчымасьці новаўвядзеньнямі і дадаткамі

казіць Хрысьціянскую праўду, дадаваць „і ад Сына“, апрача Айца, як другую асобу ісходзячага ад Айца Духа, раўначэснага народжаным ад Айца Сынам. І ня толькі гэтыя два сьвятыя мужы прасіяўшыя на Захадзе, захавалі першапачаткавую веру: Царква мае не малы лік і іншых праведнікаў на Захадзе.

Такім чынам нязгодны ні з Эвангельлем, ні з Пастановамі Сусьветных Сабораў дадатак у Сімволе Веры „ і ад Сына“ быў нарэшце пасьля доўгіх хістаняў у самай Рымскай Царкве прыняты ёю толькі ў X і пачатках XI веку. Да гэтае-ж пары і Рымская Царква трымалася таго вучэньня, якога і дагэтуль трымаецца і правідлова захоўвае Праваслаўная Царква згодна з апостальскаю запаведзьдзю: „Добрае завешчаніе соблюдi Духом Святым, жывушчым в нас“. (II. Цім. 1,14).

**Алі.**

(Працяг будзе).

# Царкоўныя Брацтвы на Беларусі.

Газэты падалі весткі, што ліквідацыйны Камітэт у справе б. расейскіх юрыдычных асобаў прыступае да ліквідацыі маемасьці, між іншымі ўстановамі і Царкоўных Брацтваў: „Сьвятога Духа“ і Кірыла і Мефодзія“.

У сувязі з гэтым лічым ня лішнім даць пакуль што хаця-ж кароткі нарыс гісторыі ўзьніку, разьвіцьця і тае вялікае ролі, якую згулялі ў жыцьці праваслаўнае царквы на Беларусі і Украіне—Царкоўныя Брацтвы.

Арганізацыя і мэты Царкоўных Брацтваў больш-менш знаёмы кожнаму праваслаўнаму парафіяніну дзеля таго, што гэтыя арганізацыі перад сусьветнай вайной шмат дзе існавалі пры царквах і манастырох у нас на Беларусі. Але ня кожнаму вядома іх гісторыя і тая культурна-нацыянальная роль, якую адыгралі брацтвы ў нас на Беларусі ў справе абароны Праваслаўнай Царквы і нашай культуры ад чужых, варожых нам, уплываў. Вось дзеля гэтага мы маем замер зрабіць кароткі гістарычны нарыс Царкоўных Брацтваў у нас на Беларусі.

Брацтвы ў сваім далёкім мінулым даходзяць аж да паганскіх часоў, яны маюць свой карэнь у старажытных звычаях рускіх славянаў. Яшчэ ў часы паганства, у нашых прародзічаў быў звычай сьвяткаваць свае сьвяты грамадой. На сьвяты сьпяваліся песьні—малітвы, песьні—падзякі, вадзіліся карагоды, рабіліся ігрышчы. Гэтыя ігрышчы зьбіралі да сябе жыхароў ня толькі аднэй вёскі. Часта, як сьведчыць летапісец, ігрышчы былі „межу селы“. Зразумела што гэтае сьвяткаваньне грамадою магло існаваць толькі тады, калі існавала нейкая арганізацыя, якая давала магчымасьць сьвяткаваць разам.

Калі прышло да нас хрысьціянства, то яно на Беларусі адразу не руйнавала паганскіх звычаяў і вераваньняў, а згодна ўжывалася з імі. Усе сьвяткаваньні адбываліся пры грамадзе, як і раней, сьвяты павінны былі арганізоўвацца асобнымі таварыствамі. З прыняцьцем хрысьціянства, гэтыя гурткі-таварыствы пачалі сабірацца каля парафіяльнай царквы і палажылі сабой пачатак царкоўных брацтваў. Брацтва стала клапаціцца, каб у вялікшыя царкоўныя сьвяты з большай пыхай адпраўлялася Служба Божая ў царкве і каб усе сябры брацтва ў гэтыя дні былі на набажэнстве. Рабіўся агульны сход братчыкаў і пасьля набажэнства варылася „братчына“—мёд, якім частаваліся, як братчыкі, так і прышоўшыя на сьвята, госьці. Па гарадох у брацтвы злучаліся цэхавыя, прафэсіянальныя арганізацыі, каторыя мелі нятолькі адны рэлігійныя мэты, але і мэты свае прафэсіі.

З канца XVI-га, а асабліва ў XVII стагодзьдзі брацтвы ў нас пачынаюць

браць на сябе нятолькі рэлігійныя, але і культурна-нацыянальныя заданьні. На гэты шлях змушаюць іх выступіць агульныя варункі нашага жыцьця ў гэты час.

Вунія паміж Польшчай і Літоўска-Беларускім гаспадарствам, якая адбылася ў 1569 годзе, ня была саюзам роўнага з роўным. Польшча скарыстала цяжкія варункі нашага жыцьця і налажыла сваю руку на нашу бацькаўшчыну. Палітычная незалежнасьць Літвы і Беларусі была згублена. Пасьля рэлігійнай вуніі 1596 году ў Берасьці, каталіцтва на Беларусі было абвешча на дзяржаўнай верай. Каталіцтва давала правы для заняцьця вышэйшых урадовых пасадаў. Рэфармацыйны рух сярод паноў зьнік. Яго замяніла каталіцтва, якое было для беларускай шляхты тым шляхам, які прывадзіў яе да вышэйшых пасадаў і да злучэньня з польскай шляхтай. З гэтага часу рэлігійнае пытаньне зьлілося з пытаньнем палітычным, нацыянальным і нават сацыяльным, а каталіцтва з польскасьцю. І вось у гэты час за абарону свае веры, культуры і нацыянальнасьці ад польскага ўплыву ўзяліся ў нас брацтвы.

Брацтвы павінны былі бараніць, як ідэі рэлігійныя, так ідэі нацыянальныя, дзеля таго, што беларуская шляхта, атрымаўшы палітычныя правы і каталіцтва пачала атрымліваць і польскі ўклад жыцьця. Езуіты дзеля рэлігійных мэтаў закладалі польскія школы і друкавалі ў польскай мове кнігі—пашыралі польскую культуру. Усё менш і менш заставалася беларускіх паноў, якія захоўывалі-б беларускую культуру, мову і звычаі, ўсё больш і больш расла адлегласьць паміж вышэйшым станам нашага народу — шляхтай і ніжэйшым—мяшчанамі і сялянамі. Калі першыя, прыняўшы каталіцтва і польскую культуру, палянізаваліся то другія заставаліся вернымі бацькаўскім загадам і для абароны іх далучаліся да брацтваў, гэтых адзіных арганізацыяў таго часу, куды роўнымі прынімалі ўсіх.

Найраней пачынае шырокую працу Львоўскае брацтва. За ім на шлях вялікай грамадзкай працы выступае Віленскае брацтва. У XVII стагодзьдзі ўжо вядомы брацтвы ў Магілеве, Оршы, Мсьціславе, Слуцку, Менску, Полацку, Вітэбску, Шклове, Крычаве і шмат дзе яшчэ. Найбольш працуюць брацтвы па гарадох—як цэнтрах культуры. Магдэбурскае права, існаваўшае тады па гарадах Беларусі, давала магчымасьць бязупыннай арганізацыі брацтваў.

Братчыкам мог быць кожны дарослы грамадзянін. У склад брацтваў уваходзілі, апрача мяшчанаў: князі, баяры, шляхта і сяляне. Як сябра брацтва, кожны быў роўны, і лічыўся братам. На брацкіх сходах і за брацкім сталом шляхціц ня меў ні якіх прывілеяў перад бедным сялянінам ці майстрам. Усё гэта зьбліжала людзей і давала магчымасьць апекі заможных братчыкаў над братчыкамі з простага люду. Брацтвы маглі карыстаць з тых правоў, якія дзяржава давала шляхце. Братчык-шляхціц у сойме і соймiках быў абаронцам нацыянальна-культурных інтарэсаў брацтва.

Мы ўжо казалі раней у якіх надзвычайна цяжкіх варунках апынулася наша праваслаўная Царква і народнасьць у 16 веку. Да гэтага трэба дадаць яшчэ, што ў значнай сваёй частцы наша духавенства тады ня было на належным мейсцы. З усіх бакоў, як з боку пратэстанаў, мы маем весткі, аб адсутнасьці адукацыі і нават безграматнасьці нашага праваслаўнага духавенства. Васіль Цяпінскі, вядомы перакладчык Эвангельля на беларускую мову, кажа, што праваслаўныя сьвяшчэньнікі яго часу не атрымліваюць належнай адукацыі і нават не разумеюць славянскай мовы, на якой пісаны сьвятыя кнігі і на якой адпраўляюцца набажэнствы.

Зразумела, што брацтвы павінны былі ў першую чаргу зьвярнуць увагу на гэты недахоп жыцьця. Трэба было даць адукаваных пастыраў царквы, а для гэтага патрэбна было ўтварыць школы і надрукаваць кнігі. І мы бачым, што хутка брацтвы і асобныя братчыкі заклалі на Беларусі шмат школаў і друкарняў, якія працавалі ў праціўвагу каталіцка-польскім школам і езуіцкім друкарням.

Асабліва многа зрабіў у гэтым напрамку князь Канстанцін Астрожскі. Яго

багацьце дало яму магчымасьць заснаваць на Беларусі вышэйшую духоўную школу ў горадзе Астрозе. Тамака, пры духоўнай школе, ён заклаў вялікую каштоўную кнігарню і друкарню. Цяжка было набраць прафэсароў тады для рускай вышэйшай школы. Сярод беларускага грамадзянства ня можна было знайсьці патрэбны лік вучоных людзей. Езуітаў ня можна было прасіць на прафэсарскія кафэдры, каб не дапусьціць каталіцкага духу. Не шкадуючы вялікіх коштаў, Астрожскі выпісаў выдатных вучоных з Грэцыі і Нямеччыны і навука з акадэміі расхадзілася ня толькі на Беларусі, але прасачывалася аж у Маскоўскае гаспадарства. Асобныя братчыкі і брацтвы, бяручы прыклад з князя Астрожскага, таксама не шкадавалі коштаў на пашырэньне асьветы: зьявіліся школы і друкарні ў шмат якіх гарадох Беларусі.

Яшчэ ў незалежныя часы Літоўска-Беларускага гаспадарства было права патранату сьвецкіх асоб і установаў над Царквой. Патроны клапаціліся аб тым, каб цэрквы мелі добрых сьвяшчэньнікаў, былі ўсім забясьпечаны і г. д. Патрон меў права ўмешвацца ў жыцьцё царквы. Часта на чале праваслаўных япархіяў, манастыроў, і царквоў патрон стаўляў такіх асоб, якія толькі былі карысны і прыемны для самога патрона. Зразумела, што гэткі патрон быў шкадлівы для інтарэсаў Царквы.

Дзеля гэтага брацтвы пачалі старацца, каб патрон быў у іх руках, бо маючы патранат над манастырамі і царквамі, брацтвы маглі рабіць вялікі ўплыў на жыцьцё Царквы. Ведама, напрыклад, што адзін толькі князь Астрожскі быў патронам больш як на 600 царквоў. Калі царква ці манастыр ня мелі такога заможнага патрона, як князь Астрожскі дык апеку бралі над імі ўсе парафіяне.

У XVII стагодзьдзі бадай што большая палова насельніцтва нашай бацькаўшчыны было злучана ў брацтвы. Паміж асобнымі брацтвамі ішлі жывыя зносіны, багацейшыя рабілі дапамогу бяднейшым. Каб мець большую моц, брацтвы стараліся атрымаць ад патрыярхаў так званую стаўрапігіяльнасьць. Сутнасьць стаўрапігіяльнасьці была ў тым што ўстановы, маючыя яе, былі непадлеглымі ў адносінах да япіскапаў. Гэта непадлегласьць давала магчымасьць вольнай крытыкі япіскапаў, а ў некаторых выпадках—нават права ўмешывацца ў чыннасьць япіскапаў.

У 17 веку чыннасьць брацтваў дайшла да найвышэйшай ступені свайго разьвіцьця, Брацтвы былі моцныя і вельмі багатыя арганізацыі. Багацьце іх складалалася, як з грошаў, так з рухомай і нерухомай маемасьці. Бяднейшыя сябры брацтваў клалі ў касу магчымыя невялікія ахвяры, за тое багатыя сябры на патрэбу брацтва апісывалі вялікія грошы. будынкі і цэлыя двары. Лік брацтваў з году ў год павялічываўся і яны пакрылі нашу бацькаўшчыну, як-бы сеткай. Пытаньні якія ставіліся на агульных сходах брацтваў, чапалі ня толькі жыцьцё арганізацыі. Часта тут паўставалі пытаньні агульна-дзяржаўныя і агульна-грамадзкія. А самым галаўнейшым з гэтых пытаньняў была справа абароны праваслаўнай веры і нашай культуры. Брацтвы тады каля гэтай справы зьбіралі разумнейшых і адукаванейшых людзей. Гэтыя людзі станавіліся на чале брацтваў і працавалі словам, пяром і друкарскім варстатам.

Шырылася культурна-нацыянальная справа. З гарадоў яна перахадзіла ў вёскі і адбівалася на вясковым жыцьці, пашыраючы гэткім спосабам барацьбітоў за сваю веру і народнасьць проці каталіцызму і польскасьці.

Праўда, барацьба была няпоўная. З Заходу ішоў да нас нятолькі моцны культурны ўплыў, але разам і палітычна-сацыяльны. Гонючыся за тэй пыхай, гонарам і багацьцем, якое суліла каталіцтва і польскасьць, а часта баючыся тых перашкодаў, якія былі зьвязаны з праваслаўем, наша беларуская шляхта пераходзіць на польскі бок, зракаючыся за чыны і пасады свае праваслаўнай веры і беларускай нацыянальнасьці. Сыны і ўнукі шчырых братчыкаў (Хаткевічы, Астрожскія і інш.) пераходзяць на старану тых, з якімі так цьвёрда і рашуча змагаліся іхныя бацькі і дзяды.

Зразумела, што страціўшы ў сваіх радох больш культурных і больш—сацыяльна-заможных працаўнікоў, брацтвы пачынаюць слабець. На варце веры і народнасьці свае застаецца ніжэйшы стан грамадзянства, пераважна сяляне, якія цеснай сямейкай гуртуюцца каля царквоў і манастыроў, баронючы праваслаўную веру і нацыянальнасьць...

Вось кароткі нарыс гісторыі царкоўных брацтваў. Гэты кароткі агляд дае магчымасьць заўважыць, што перажываямыя намі часы маюць у саба шмат падобнага да эпохі XVII веку. Як тады, так і цяпер маем моцны ня толькі культурны, але разам з ім і палітычна-сацыяльны ўплыў з Захаду. У XVII веку абставіны вытварылі ў нас густую сетку царкоўных брацтваў, якія сталі ў абароне свае веры і нацыянальнасьці. Сягоньня голасу гэтых брацтваў мы пакуль што ня чуем. Яны зусім ліквідуюцца, каб зноў не паўстаць. Калі гэткі стан рэчаў будзе трываць далей, дык зусім магчыма, што ў будучыні нас чакае поўная дэнацыяналізацыя.

Хай-жа ізноў паўстануць да жыцьця царкоўныя брацтвы, якія возьмуць на сябе абарону нашае царквы і культуры. Гісторыя царкоўных брацтваў на Беларусі яскрава сьведчыць нам аб гэтай неабходнай патрэбе.

---

# Стан заканавучыцельскае справы ў Віленскай Япархіі ў 1928 г.

Разасланая ў канцы 1927 году Віленскай Духоўнай Кансісторыяй усяму духавенству Віленскай Япархіі заканавучыцельская анкета з 13 падставовымі пытаньмі, ахопліваючымі, па магчымасьці, усе бакі заканавучыцельскае справы, дала вялікі багаты матар'ял характарызуючы, як пастаноўку справы навучаньня падрастаючага пакаленьня Закону Божаму, так і абставіны, у якіх прыходзіцца а. а. законавучыцялям вясьці сваю цяжкую працу.

По дадзеных анкеты, у межах Віленскае Япархіі (ня ўключаючы нядаўна запісаных 20 прыходаў Стаўпецкага павету і м. Вільні), лічыцца 668 школаў рожнага тыпу — як дзяржаўных і камунальных, так і прыватных школаў, з правамі „publiczności" і бяз праў, у 1275 клясах якіх вучыцца 33.826 праваслаўных дзяцей, у тым ліку 18.683 хлапцоў і 15.144 дзяўчат.

Амаль ва ўсіх школах лекцыі Закону Божага даюцца сьвяшчэньнікамі, прычым да 80 проц. сьвяшчэньнікаў Япархіі займаецца заканавучыцельствам. Судзячы па дадзеных анкеты, заканавучыцельская праца ў адных пунктах адносна лёгкая, у другіх — вельмі цяжкая, дзякуючы, галоўным чынам, двум прычынам геаграфічнаму палажэньню школаў, г. зн большай ці меншай адлегласьці яе да мейсца жыцьця сьвяшчэньніка-заканавучыцеля, а таксама і стану шляхоў, ёсьць такія мейсцы дзе ўзімку можна праехаць даволі блізка, па балоце, а ў іншую пору году трэба об'язжаць навакола, робячы дзясяткі вёрстаў лішніх. Другая прычына — асабістыя адносіны заканавучыцеля з мяйсцовым школьным начальствам, у першую чаргу — з кіраўнікамі школаў. Усе яны палякі, часта з Галічыны, мяйсцовага жыцьця і мовы тутэйшага насельніцтва ня ведаюць і глядзяць на ўсходнія „kresy", як на дзікі край, куды яны пакліканы ўводзіць культуру. Калі з падобным кіраўніком школы заканавучыцелю нечаму не ўдалось наладзіць блізкіх адносінаў — праца заканавучыцеля робіцца вельмі цяжкою. Даволі спозьніцца на лекцыю на 10—15 мінут, што вельмі лёгка пры паездках за некалькі вёрст, бо могуць быць рожныя выпадкі, каб гэтая лекцыя не „залічылася", г. зн. яна лічыцца прапушчанай і за яе заканавучыцель нічога не атрымлівае, хаця-ж-бы займаўся лішніх паўгадзіны. Ад тых-жа кіраўнікоў залежыць

унясеньне ўпору заканавучыцеля ў ведамосьць на пэнсію, гэтая ведамасьць мяйсцовымі школьнымі інспэктарамі адпраўляецца ў куратарыум — а ў выніку неўнясеньня, у лепшым выпадку, заканавучыцель атрымлівае пэнсію на некалькі месяцаў пазьней.

З усіх 668 школаў толькі ў 25 выкладаюць ня самі сьвяшчэньнікі, а іншыя сябры прычту — дзьяканы і псаломшчыкі; прычым у трох школах (Браслаўскі прыход) выкладаюць з дазволу Япархіяльнае Улады два б. народных вучыцялі, а ў чатырох школах (Валожынскі прыход) — таксама з належнага дазволу, займаецца жонка сьвяшчэньніка.

У ліку тых 668 школаў, весткі аб якіх паданы ў атрыманых з мяйсцоў адказаў на разасланую анкету, ёсьць 30 школаў, дьзе па рожных прычынах, Закон Божы не выкладаецца праваслаўным дзецям, колькасьць складае 4,49 проц. ўсіх шкалаў 366 вучняў у 25 школах застаюцца без навучаньняў праваслаўнай рэлігіі, а ў пяцёх школах лік такіх вучняў няведамы.

Насколькі можна судзіць па анкетах прычынамі невыкладаньня Закону Божага зьяўляюцца:

1) адмова сялян даваць фурманкі для паездак а. а. заканавучыцялёў, вялікая адлегласьць, немагчымы стан шляхоў, перашкоды пры пераправе праз р. Нёман — у 9 мейсцох.

2) У сьвяшчэньнікаў няма вольнага часу — 2 выпадкі

3) прычыны незалежныя ад заканавучыцеля: „неналежыць“ вучыць дзяцей праваслаўнай рэлігіі ў школе Macierzy Polskiej (Ясьвеская школа ў танубіцкам праходзе, Глыбоцкага благачыньня); адмова ў назначэньні заканавучыцеля, хаця-ж і падаваліся просьбы: (Мілашоўская школа, Друйскага прыходу і Парафіянеўская 7 кл. школа, Сіцкага прыходу, Докшыцкага благачыньня — дзе а. пр. Нядзельскі не зацьверджаны мяйсцовым школьным інспэктарам); недапушчэньне выкладаньня школьнаю ўладаю — ў 6 выпадках

4) ня было па раскладзе лекцыяў „вольных гадзін“ для праваслаўнага Закону Божага — у 5 выпадках (школы Гальшанскага прыходу: Балванішская, Канцянецкая, Бямонская, Нарушавецкая, Лужышчанская);

5) мала праваслаўных вучняў у школе, чаму і не назначаецца праваслаўны заканавучыцель — у 9 выпадках

Цікава зазначыць, што ў адным выпадку (у Варланскай школе, Пярэплішскага прыходу) Закон Божы выкладае праваслаўным дзецям па сінадальнаму малітвеніку вучыцелька полька Станіслава Маеўская, з прычыны адсутнасьці ў сьвяшчэньніка вольнага часу **па яго просьбе**. У другім выпадку — у Шчучынскай Яўлыценскай сямінарыі — не дапушчана выкладаньне праваслаўнай рэлігіі з прычыны не здавальняючага лІку вучняў (трэба 12 — а ёсьць усяго 10); але пры гэтым аказваецца, што ёсьць яшчэ два праваслаўных вучня, якія „па добрай волі“ ходзяць на лекцыі каталіцкай рэлігіі.

З агульнага ліку 668 школаў у межах Япархіі, маючых 1275 клясаў (залічаючы і аднаклясовыя пачатковыя школы) — у 22 выкладаньне Закону Божага вядзецца па групах, створаных заканавучыцялямі, а ў 417 — выкладаньне вядзецца з цэлымі клясамі, з выдзяленьнем з іх, дзе такія ёсьць, вучняў-каталікоў.

Даволі аднагалосна адказваюць амаль усе заканавучыцелі на 7-е пытаньне анкеты: аб прычынах нерэгулярнасьці выкладаньня Закону Божага ў тых школах, дзе нельга вясьці заняткаў рэгулярна. Галоўная прычына — выкананьне сьвяшчэньнікамі рожных трэбаў і наагул службы па прыходу, якую нельга абмежаваць пэўнымі гадзінамі дня, а дзеля гэтага заканавучыцель часта павінен прапускаць вызначаныя ў школьным раскладзе лекцыі. Гэтым тлумачыцца жаданьне. выказанае многімі заканавучыцялямі пры адказе на 12-ы пункт анкеты — „Агульныя жаданьні і заметкі вучыцялёў“ — аб тым, што было-б карысным для сравы замест вызначаных раскладам лекцыяў Закону Божага даць заканавучыцялям

магчымасьць вясьці заняткі тады, калі самі яны могуць. Аб гэтым будзе сказана ніжэй.

На перашкоды ў справе выкладаньня рэлігіі — характару палітычнага ці рэлігійнага — не паказвае ні адзін з заканавучыцялёў. Бывалі труднасьці (ёсьць і цяпер) у назначэньні заканавучыцялёў, спатыкаліся зусім незразумелыя факты, як незацьверджаньне а пр. Нядзель-скага па няведамых прычынах заканавучыцелям, Парафіянаўскай 7 кл. школы, дзе лічыцца 49 праваслаўных вучняў, ці адмовы ў назначэньні заканавучыцеля ў Мінашэўскую школу з 20 праваслаўнымі вучнямі; але там, дзе заканавучыцель пачаў працу, на перашкоды ў вядзеньні лекцыяў не паказваецца ні ў адной анкеце. Наагул адносіны, і вучыцялёў і кіраўнікоў школаў да заканавучыцялёў зусім празваітыя.

З прычыны недакладнасьці ў многіх адказах на 8-ы пункт анкеты — аб колькасьці дадзеных і прапушчаных лекцыяў Закону Божага — немагчыма прывесьці агульныя лічбы, бо дзякуючы няпоўнасьці вестак, агульны лік прапушчаных і адбыўшыхся лекцыяў ня дасьць поўнага абразу. У агульнай масе ражнародных адказаў ёсьць такія: „пропускаў ня было“ ці: „амаль бяз пропускаў“ і г. д. а гэта не дае магчымасьці зрабіць дакладнага падсумаваньня. Працэнтныя адносіны паміж лічбаю дадзеных і прапушчаных лекцыяў можна абазначыць для тых школаў, з якіх пададзены дакладныя весткі.

У выніку таго, ў адказах на 7-ы і 8-ы пункты анкеты некаторымі а. а. заканавучыцялямі было сказана, што яны невыкладалі ў такіх-та і такіх-та школах, бо там мала праваслаўных вучняў, ці што гэтыя школы ўтрымліваюцца культурна-асьветнай арганізацыяй „Macierz Polska“, так што там, не належыцца выкладаньне Закону Божага (такі адказ дан па Ясьвіцкай школе, Галубіцкага прыходу, Глыбоцкага благачыньня)—а. а. благачынныя зьвярнуліся да усіх заканавучыцялёў з просьбаю, у дапаўненьне да адказаў на анкету, падаць весткі аб тых школах, у тым ліку і школах „Macierzy Polskiej“, дзе вучацца праваслаўныя дзеці, але, па тых ці іншых прычынах. Закон Божы не выкладаецца. З атрыманых паведамленьняў відаць, што 633 праваслаўных дзяцей не навучаюцца Закону Божаму; з агульнага ліку 45 школаў, у якіх не выкладаецца праваслаўная рэлігія праваслаўным вучням, „Macierzy Polskiej“ належыць 5 школаў з 199 вучнямі. З агульнага ліку праваслаўных вучняў 33.872 чал. ўсей Япархіі не навучаюцца Закону Божаму 633 чал.

Адказываючы на 9 пункт анкеты — аб атрымліваньні ўзнаграджэньня за выкладаньне Закону Божага і аб умовах назначэньня сьвяшчэньнікаў для заняцьця заканавучыцельскіх пасадаў, а. а. заканавучыцялі прыводзяць самыя ражнародныя даныя, так што ня было магчымасьці зрабіць прадстаўленьне ні аб юрыдычным становішчы заканавучыцялёў ні аб аплаце заканавучыцельскае працы. Аказалася, напрыклад, што заканавучыцель у Плябанцаўскай і Ахрэмаўцаўскай школах, Браслаўскага прыходу, атрымлівае па кантракту, па 3 злоты за кожную лекцыю; большасьць заканавучыцялёў атрымліваюць па 1 зл. 50 гр. за лекцыю, ёсьць такія якім плацяць па 2 зл. і па 1 зл. 25 гр. Але гэтага мала — этатовых заканавучыцялёў амаль няма (напр. у Рускасельскім прыходзе закавучыцель этатовы і яму плоцяць па 3 зл.), заканавучыцель-жа кантрактовы атрымлівае па 2 зл. (такіх мала), ці па 1 зл. 50 гр. за лекцыю.

Дзякуючы гэтаму трэба было ізноў прасіць праз а. а. благачынных заканавучыцялёў даць дакладныя, па магчымасьці афіцыяльныя даныя і спраўкі ад мясцовых уладаў, каб можна было судзіць аб прычынах тых ці іншых разьлічэньняў з заканавучыцелямі, а таксама атрымаць яснае прадстаўленьне аб самым парадку асыгнаваньня і выплаты заканавучыцельскае пэнсіі. Толькі маючы афіцыяльныя даныя, можна зразумець, чаму адныя, працуюць, як кантрактовыя, запрошаныя заканавучыцялі, другія зьяўляюцца этатовымі пэдагогамі, з павышанай пэнсіяй; адныя атрымліваюць пэнсію акуратна, другія з вялікім спазьненьнем; адныя за ўсе даныя лекцыі, другія толькі за

частку, прычым палова даных лекцыяў „не залічываецца“; чаму за лекцыі ў такой-та школе плоцяць, а ў такой-та— не і г. д. З атрыманых адказаў даведываемся, што вызначэньне колькасьці ўзнагароджэньня (1 зал. 50 гр. за кожную фактычна даную лекцыю, прычым, як правіла, усе праваслаўныя законавучыцялі лічацца нештатнымі, а кантратовымі пэдагогамі), залежыць ад п. Куратара школьнага вокругу, а ад школьных інспэктараў на мясцох залежыць прадстаўленьне а. а. законавучыцялям таго ці іншага ліку лекцыяў, прычым гэты лік бывае зазвычай вельмі нязначны, не даючы магчымасьці прайсьці вызначанага праграмаю курсу. Пры гэтым ня плоціцца за прапушчаныя законавучыцелям лекцыі, а прычынамі, апраўдываючымі пропускі, лічацца толькі дзьве: паездка да хворага і хаўтуры. З прадстаўленьня ў Віленскую Духоўную Кансісторыю пратакола сьвяшчэнна—і царкоўнаслужыцеляў Друйскага благачыньня ад 15 сакавіка 1928 году відаць, што лік лекцыяў Закону Божага адвольна скарачваецца школьнымі інспэктарамі, а ў некатарых законавучыцялі, ня глядзячы на тое што акуратна зьяўляліся на лекцыі, абсалютна пазбаўлены ўзнагароджэньня за сваю працу. Урэшце няма ні аднаго данясеньня, ні аднаго рапарту з мясцоў, у якім-бы не гаварылася аб тэй вялікай перашкодзе ў справе выкладаньня рэлігіі, якой зьяўляецца ў сьвяшчэньніка адсутнасьць сродкаў перадзьвіжэньня; наймо фурманак для паездак у школы, адлеглыя ад мейсца жыцьця сьвяшчэньніка на 8—15 верстаў, часамі перавышае атрымліваную за лекцыі пэнсію і зьяўляецца галоўнай перашкодай у рэгулярным выкладаньні Закону Божага. Што датычыць ненармальнага стану пытаньня аб умовах і аплаце законавучыцельскае працы, неабходна ўзбуджэньне справы перад Віленскім Школьным Вокругам аб зьмене крэдыту аплаты, уведзенам цыркулярным загадам п. Куратара, згодна з якім раздатачная ведамасьць на пэнсію для кантрактовых вучыцялёў, у гэтым ліку і для а. а. законавучыцялёў, састаўляецца школьнымі інспэктарамі ў канцы кожнага месяцу — і прадстаўляецца ў вокруг, які і асыгнуе азначаную суму, як гэта відаць з данясеньня Дзісьненскага школьнага інспэктара вакружным кіраўнікам № 3439/27, копія якога прадстаўлена а. настаяцелям Лужыцкае царквы, Дзісьненскага благачыньня, пры рапарце № 139 ад 7/VI 1998 г.

Гэты парадак выклікае спазьненьне часам на некалькі месяцаў у выдачы пэнсіі. Ненармальнымі трэба прызнаць і адносіны цэлага шэрагу школьных інспэктароў на мясцох да самага выкладаньня рэлігіі праваслаўным дзецям у паўшэхных школах, дзякуючы чаму для лекцыяў Закону Божага вызначаюцца нейкія „podliczbowe godziny“, а часам ня бывае і так; часта здараецца, што плацяць законавучыцелю менш „z powodu wyczerpania kredytu“.

Так як дзяржаўныя школы ў Польскай Рэспубліцы не зьяўляюцца „bezwyznaniowemi“ і выкладаньне рэлігіі зьяўляецца абавязкавым, ня можа лічыцца нармальным становішча, калі для выкладаньня гэтага па закону абавязкавага прадмету вызначаюцца нейкія дадатковыя гадзіны. Неабходна таксама пазбавіцца ад самавольля школьных інспэктароў ці кіраўнікоў, школаў, у пытаньні адлічэньня прызначаных а. а. законавучыцялям. Немагчыма далей зносіць такое становішча, калі, як напр. у школах Ляоньцьеўскага прыходу, даецца лекцыяў пэўная колькасьць, а „залічваецца“ менш, ці ў школах Астрынскага прыходу, дзе за 160 лекцыяў заплачаны 102 зл. (г. зн. не па 1 зл. 50 гр., а па 65 гр. за лекцыю), а самы лік лекцыяў памяншаецца для аплаты ўдвая.

На пытаньне (11-е) анкеты аб рэгулярнасьці зьяўленьня вучняў у царкву ў сьвяты, агульна атрыманы больш-менш аднолькавыя адказы: дзеці ў царкву ходзяць мала, асабліва ўзімку, з прычыны нястачы цёплай адзежы і абуўкі. Наглядаюць за гэтым а. а. законавучыцялі, дзе-недзе школьныя вучыцялі праваслаўныя і ходзяць у царкву разам з вучнямі; у большасьці-ж выпадкаў за дзяцьмі не наглядае ніхто, бо толькі так і можна зразумець выраз „недагляд збоку бацькоў“, які спатыкаецца ў 80 проц. адка-

заў усіх заканавучыцялёў. Есьць адказы, што ў царкву ходзяць толькі дзеці з бліжэйшых вёсак, а жывучыя больш далёка ад царк5ы, на Службе Божай амаль ня бываюць.

На пытаньне аб іспаведзі І сьв. прычасьці амаль усе заканавучыцялі, адказваюць што вучні спаўняюць гэта ня менш аднаго разу ў год, у 24-ма прыходах дзеці ходзяць да іспаведзі і сьв. прычасьця два разы на год.

Выказваюцца пажаданьні аб абавязкавым гавеньні дзяцей тры разы на год, і ня толькі для вучняў, але і для ўсіх дзяцей у веку 7—14 гадоў (Іезскі прыход).

Моваю выкладовою амаль ва ўсіх пачаткавых школах зьяўляецца беларуская, прычым а. а. заканавучыцялі, адказваючы на адпаведны (10-ы) пункт анкеты рэдка гавораць проста „беларуская мова", а кажуць або аб „мяйсцовай", або аб „матчынай" мове; некаторыя выдумалі нават нейкую „расейска-беларускую" мову. У чыста расейскай мовев ыкладаньне вядзецца толькі ў 38 школах (паказана ў анкетах).

У некаторых анкетах паказана на мову „літургічную" і царкоўна-славянскую, але гэта мала падобна да праўды.

З агульнага ліку 668 школаў — 105 (15.6 проц.) знаходзяцца „пры царкве", „у мястэчку", „на мейсцы", „у адлегласьці 200 саж." і г. д.—коратка кажучы, у пункце мейсца жыцьця сьвяшчэньніка. Рэшта школаў знаходзяцца ў адлегласьці 1—16 вёрстаў.

Найбольш цікавымі па зьместу зьяўляюцца адказы на апошні 13-ы пункт анкеты: „Агульныя вывады і жаданьні, скіраваныя да падняцьця рэлігійна-маральнага роўня вучняў".

Абсалютна ўсе заканавучыцялі пакызываюць на адсутнасьць падручнікаў па Законе Божым, як малітвенікаў, так і гісторыі старога і новага завету, у мове, зразумелай для вучняў, г. зн. беларускай. Трэба зазначыць, што вучні польскіх пачатковых школаў, у якіх уся навука вядзецца выключна ў польскай мове, абсалютна незнаёмы з альфабэтам крыліцай і ня могуць карыстацца з падручнікаў друкаваных гэтым альфабэтам. Абавязкова патрэбны падручнікі пісаныя ў беларускай мове і друкаваныя лацінікай. Аб хутчэйшым выданьні распашырэньні такіх падручнікаў просяць а. а. заканавучыцялі з розных кўткоў Япархіі. Адначасна зазначаецца, як значная перашкода ў справе выкладаньня Закону Божага, некарыснасьць навучаньня вуснага, са слоў заканавучыцеля: пры вялікай страце працы з боку апошняга, вынікі аказваюцца вельмі нездавальняючымі і ў кожным выпадку не адпавядаючымі патрачанай на выкладаньня энэргіі. Зазначаецца жаданьне мець пры школах хаця-ж маленькія бібліатэчкі, а таксама наглядныя пасобія, як сьцянныя абразы з біблійнай гісторыі, што хаця-ж троху памагло-б вясьці выкладаньне Закону Божага.

# Маламажэйкаўская Царква.

Маламажэйкаўская Царква пабудавана ў 1407 годзе. Цікавая архітэктура гэтае Царквы, напамінаючая сярэднявечныя замковыя будынкі, дае магчымасьць дагадывацца, што царква гэта калісь была ня толькі домам для малітвы, але абароннаю крэпасьцю для людзкога скарбу ў часе рабункавых войнаў.

Сьцены царквы зложаны з моцнай, як жалеза, цэглы, на сажэнь таўшчыні. На вуглох сьценаў зробляны стралецкія вежы, да каторых з царквы вялі каменныя сходы, якія разам з патаемнымі ходамі пад царкву ў сьцяне яе, былі зьнішчаны ў 1817 годзе. Пад царквой былі зроблены два скляпы. Уваход у царкву засланяўся цяжкай жалезнай брамай, якая спускалася на ланцугах з нішы, зробленай у сьцяне. На жаль брама гэта да нашых часоў не захавалася: яе са

мавольна забраў сабе тамтэйшы пан Казьмер Кастравіцкі. Па апавяданьням старажыхароў, швэды бамбардавалі гэтую царкву ў часе пастою Караля XII лягерам у мястэчку Жалудку.

Пасьля ўвядзеньня, люблінскае вуніі Маламажэйкаўская царква была захоплена вунятамі і з тэй прычыны, што ў гэты час яна пазбавілася значнага ліку сваіх прыхаджан, а паны — патроны і базыльляне зусім не клапаціліся аб яе падтрыманьні, царква гэтая зусім зьбяднела і зруйнавалася. Як царква вуніяцкая, яна не захавалася ад нападу і рабунку казакаў.

На Маламажэйскую царкву зьвярнуў сваю ўвагу расейскі цар Аляксандар I у часе свайго пераезду з Вільні ў Горадню. Цар загадаў адрамантаваць царкву і даручыў дагляд за працаю Слонімскаму пану Юдзілу. Аднак-жа гэты загад застаўся нявыкананым. Пакуль рыхтаваліся да рамонту ды зьбіралі матар'ялы, ад удару пяруна страха на царкве ўвалілася ў сярэдзіну. Гэта было ў 1804 годзе. Праз пяць гадоў страху направілі, але ў сярэдзіне царква засталася бяз ніякае папраўкі, нават рамы ў вокнах ня былі ўстаўлены. Поўнае адрамантаваньне Маламажэйкаўскае царквы належыць ужо да бліжэйшых часоў. Адрамантаваная з надворку і перарobленая ў сярэдзіне, яна была высьвенчана 21 студзеня 1873 г. На іканастасе быў пастаўлены старадаўны абраз Божай Мацеры, які перанесяны сюды ў 1868 годзе з царквы, быўшай некалі ў сяле Ваўчанках.

Нядаўна гэтую гістарычную сьвятыню праваслаўнага беларускага народу захапілі каталікі. У гэтым ім чынна дапамагаў лідзкі благачынны пратаярэй Уладзімір Жданаў. Вось, якіх мы маем благачынных! Што для іх чужынцаў, значаць нашыя сьвятыні. Усе гэтыя „овы“ і „евы“ захапілі кіраўнічыя пасады ў сваі прадажныя рукі і пры першай магчымасьці каб „дагадзіць начальству“ прадаюць народныя сьвятыні.

Праўда для віду прат. Жданаў Віленскаю Епархіяльнаю Уладаю цазбаўлены пасады благачыннага, але лёгікі тут мала: трэба толькі прыпомніць, хто аддаў ключы ад Віленскае царквы, а праз гэта і царкву на Антокалі...

Ня гледзячы на вялікую прыкрасьць, якую такія духаўнікі прыносяць нашаму народу, трэба прызнаць, што ёсьць у гэтым і дадатні бок: гэта пэўнасьць, што такія духаўнікі могуць прадаваць народныя сьвятыні, могуць прадавацца самыя, але яны ня здоляюць пацягнуць за сабою народу, а дзеля гэтага яны ня маюць ніякае вартасьці ў вачох тых, каму прадаюць і прадаюцца.

**Сако.**



## ТАЛСТОЙ АБ КООПЭРАЦЫІ.

Я не магу не спачуваць коопэратыўнаму руху. Хаця-ж я, праўда і ніколі не перастану думаць і гаварыць, што адзіны радыкальны сродак, здольны зьнішчыць існуючае зло барацьбы, гвалта і ўціску большасьці народу непрацоўнымі клясамі—ёсьць абнаўленьне рэлігійнай сьвядомасьці народу, я не магу не прызнаваць і таго, што коопэратыўны рух — закладка коопэратываў, удзел у іх—ёсьць адзіная грамадзкая дзеяльнасьць, у якой можа ў нашу пару браць удзел маральны, шануючы сябе чалавек, які не жадае браць удзел ў гвалце.

Прызнаю і тое, што коопэрацыя можа палегчыць дасягнуўшую ў апошнюю пору да крайняе ступені патрэбу працоўнага люду.

Ня думаю аднак-жа, як гэта думаюць некаторая, каб коопэратыўны рух выклікаў ці ўмацаваў рэлігійныя погляды людзей на жыцьцёвыя пытаньні.

Думаю, наадворот, што толькі пашырэньне і паглыбленьне рэлігійнае сьвядомасьці можа надаць моцны, творчы характар коопэратыўнаму руху.

Ў кожным выпадку думаю, што ў нашу пору, гэта адна з найлепшых чынасьцяў якой могуць аддаць свае сілы, шукаючыя працы маладыя людзі, жадаючыя служыць народу, а іх так шмат.

Калі-б я быў маладым, я заняўсябы гэтаю справаю, і цяпер ня трачу надзеі папытацца зрабіць, што магу, сярод нашага блізкага мне сялянства.

Рэдактар-выдавец: сьвяшч. **А. Коўш.** Друк. С. БЕКЭРА Вільня, Субач 2.

# ЗЬМЕСТ.